КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

# Наша Слова

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 37 (301) 12 верасня 1996 г.

Кошт -- 1000 рублёў



***Вучыцца сёння па-беларуску — значыць захаваць Беларусь ад знікнення заўтра.***

***Пачаліся заняткі ў школах. Беларускіх класаў паменела, але яны ёсць. Значыць, ёсць у Беларусі мужныя і годныя людзі!***

## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ 6 верасня дэпутаты Вярхоўнага Савета разам з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам правялі абмеркаванне пытання "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню". Сваю ініцыятыву адносна рэферэндуму растлумачыў Аляксандр Лукашэнка, а пазней, калі Прэзідэнта не было ў зале, лідэр фракцыі камуністаў Сяргей Калякін прадставіў пункт погляду 84 дэпутатаў, якія падпісаліся за правядзенне альтэрнатыўнага рэферэндуму па трох пытаннях, адно з якіх — прапанова прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, у якой адсутнічае пасада Прэзідэнта. У гэты ж дзень Вярхоўны Савет назначыў 100 галасамі "за" і 22 "супраць" дату правядзення рэферэндуму — 24 лістапада. На яго будзе вынесена 7 пытанняў, сярод іх два праекты Канстытуцыі.

○ ***4 верасня ў "Звяздзе" другі раз надрукаваны праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (са змяненнямі і дапаўненнямі). На гэты раз — на беларускай мове.***

○ **Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваны Фонд падтрымкі парламентарызму.** Асноўнай мэтай дзейнасці фонду з'яўляецца пашырэнне ідэй парламентарызму, садзейнічанне стварэнню ў Беларусі прававой дзяржавы. Заснавальнікамі гэтай грамадскай арганізацыі выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета, вучоныя, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Прэзідэнтам Фонду абраны Леанід Сечка.

○ ***У газеце "Звязда" міністр адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васіль Стражаў*** *на пытанне аб сённяшняй русіфікацыі школ сказаў: "Дзяржаўнасць беларускай мовы пацверджана законам, Канстытуцыяй (да таго ж і ў новым яе праекце). А што датычыць памяншэння колькасці беларускіх класаў, то, думаю, працэс ужо стабілізаваўся. Ніжэй наўрад ці будзе планка апускацца. І я не вініў бы тут чыноўнікаў ці некага яшчэ. У зніжэнні колькасці беларускіх школ — адлюстраванне стаўлення грамадства да роднай мовы". А ці толькі грамадства?*

○ **У Століне адбыўся** першы рэспубліканскі фестываль-кірмаш "Дажынкі". Гучала беларуская мова. І някепска.

○ ***Міністэрства шляхоў зносінаў Расіі прапанавала*** *беларускай чыгунцы скараціць рэйсы на Маскву, аднак пакуль прапанова расійскага боку не прынята. Што ж — няма таго, што раньш было...*

○ **Пры асобным правядзенні давыбараў у Вярхоўны Савет і рэферэндуму спатрэбіцца** больш як 51,5 мільярда рублёў. З іх на давыбары — 19,63 мільярда і 32 мільярды — на правядзенне рэферэндуму. Такія б грошы ды на культуру...

○ ***За паўгода знайшлі ў Расіі працу*** *10,1 тысячы чалавек — грамадзян Беларусі. Па афіцыйных звестках у нашай краіне каля 180 тысяч беспрацоўных. Расія ўсім ім працы не дасць — у яе беспрацоўных у разоў дзесяць болей, чым у нас. Хаця высока адукаваным і кваліфікаваным людзям праца знойдзецца ў любой краіне. Так што і ў Расію з'ехалі не самыя горшыя. А хто ж застанецца ў Беларусі?*

## Дэпутаты — за дэмакратыю

Ля Палаца чыгуначнікаў у Менску 2 верасня адбылася сустрэча дэпутатаў Вярхоўнага Савета са шматлікімі выбаршчыкамі. На сустрэчу прыйшлі парламентарыі Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Павел Знавец, а таксама вядомыя грамадскія і прафсаюзныя дзеячы Валянцін Голубеў, Лявон Баршчэўскі, Юры Хадыка, Генадзь Быкаў. Спачатку, як вядома, мерапрыемства планавалася на Пляцы Незалежнасці, аб чым загадзя паведамілі і прэса, і ўлёткі, але ў апошні момант Менгарвыканкам, як звычайна, месца сустрэчы змяніў. Больш за 20 аўтобусаў з міліцыяй і АМАПам былі сцягнутыя на цэнтральныя вуліцы вакол Дома ўрада, таму прадстаўнікам БНФ прыйшлося прыкласці ўсе намаганні, каб не дапусціць сутычкі. Урэшце-рэшт людзі пагадзіліся з новым маршрутам і, скандзіруючы лозунгі, пайшлі да Палаца чыгуначнікаў.

Усе прамоўцы былі лаканічныя: адстаўка Прэзідэнта — адзінае, што застаецца сёння дзяржаве, якая пастаўлена на мяжу эканамічнай бездані. Г.Карпенка абвясціў, што да пачатку сесіі Вярхоўнага Савета распачаты збор подпісаў аб недаверы да выканаўчай улады. Аб тым, што ў краіне штодзённа парушаюцца правы чалавека, нагадаў Л.Баршчэўскі, заклікаўшы ўсіх грамадзян дзяржавы падтрымаць ініцыятыву імпічменту.

Вялікае ўражанне на прысутных зрабілі прамовы карэспандэнтаў "Радыё 101,2", якія распавялі аб закрыцці радыёстанцыі ў ноч з пятніцы на суботу, і інфармацыя аб арышце рахункаў "Свабоды", "Беларускай дзелавой" і іншых альтэрнатыўных газет. Несумненна адно: наўрад ці Прэзідэнт пакіне без увагі ініцыятыву імпічменту.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Два варыянты разгону парламента

10 верасня ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя сяброў аргкамітэта па правядзенні Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры Генадзя Карпенкі, Станіслава Багданкевіча, Аляксандра Бухвостава, Юрыя Захаранкі і Георгія Таразевіча.

Аргкамітэт узначаліў экс-міністр унутраных спраў Юрый Захаранка. Кангрэс плануецца правесці 26 кастрычніка, але месца яго правядзення пакуль не называецца. Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка паведаміў журналістам, што ў яго ёсць дакладны план дзеянняў Прэзідэнта па ліквідацыі Вярхоўнага Савета. 9 верасня прайшло пасяджэнне прэзідэнцкай групы, якая выпрацавала два варыянты разгону парламента. Першы варыянт, па словах Генадзя Дзмітрыевіча, будзе прыведзены ў дзеянне ў тым выпадку, калі Вярхоўны Савет вынясе Прэзідэнту імпічмент. Войскі АМАПа павінны ачапіць будынак парламента і выправадзіць адтуль дэпутатаў. Другі варыянт прадугледжвае роспуск Вярхоўнага Савета 19 кастрычніка, праз рэзалюцыю т.зв. Кангрэса народа Беларусі ў "сувязі з абвастрэннем палітычнай сітуацыі ў краіне".

Юрый Захаранка заявіў, што дарэмна Аляксандр Лукашэнка спадзяецца на падтрымку войскаў МУС. Па словах Захаранкі, ён добра ведае настрой афіцэраў і запэўніў прысутных, што ніхто з вайскоўцаў не падыме супраць народа зброю.

**Язэп СІНІЦКІ.**

## Дык хто ж напісаў ліст Сямёну Шарэцкаму?

Паводле звестак прэс-сакратара спікера беларускага парламента Веранікі Трызны, Камітэт дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь разбіраўся з фактам з'яўлення правакацыйнага ліста, атрыманага Старшынём Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім 30 жніўня.

Вынікі расследавання спецыялістамі КДБ паказалі, што зыходны матэрыял быў напісаны па-расійску, а потым перакладзены на англійскую мову. Аднак устаноўлена, што пераклад рабіў чалавек, для якога англійская мова не родная. Пра гэта сведчыць няправільнае ўжыванне прыназоўнікаў, часавых формаў дзеясловаў у асобных фразах. Да таго ж з памылкамі напісаныя нават ініцыялы Сямёна Шарэцкага.

Акрамя таго, зваротны адрас на канверце пазначаны ў манеры, не характэрнай для амерыканцаў, а напісанне прозвішча наогул неўласцівае для англамоўных прозвішчаў. "Цяжка чакаць, што нядобрасумленныя людзі ў сваіх палітычных гульнях будуць выкарыстоўваць цывілізаваныя метады. Здзіўляе адсутнасць элементарнай пісьменнасці і прафесіяналізму",— заўважыла з гэтай нагоды Вераніка Трызна.

**А.І.**

## "Круглы стол" пакідае Прэзідэнту шанц

28 жніўня адбылося чарговае пасяджэнне "круглага стала", на якім прадстаўнікі буйнейшых палітычных партый і рухаў краіны прынялі сумесную палітычную заяву.

Да "падпісантаў" далучыліся: Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя, Беларускі Хельсінкскі камітэт, Беларускі ПЭН-цэнтр, Партыя зялёных і Беларускі фонд дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі.

Усе ўдзельнікі "круглага стала" нават з палярнымі палітычнымі поглядамі былі аднадушнымі ў ацэнцы становішча, якое склалася ў краіне па віне яе вышэйшага кіраўніка. Адзначалася, што ён не хоча ісці ні з кім на кампрамісы і садзіцца за стол перамоваў. Прадстаўнікі БНФ і Грамадзянскай партыі былі нават гатовыя распачаць працэдуру імпічменту, але астатнія ўдзельнікі вырашылі звярнуцца да Вярхоўнага Савета з заклікам ісці на крайнія меры ў тым выпадку, калі да 15 верасня не будуць адмененыя неканстытуцыйныя ўказы, будзе супрацьдзеянне правядзенню давыбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя саветы, а таксама рэферэндуму па пытаннях:

1. "Ці падтрымліваеце вы дзеянні Прэзідэнта і ўрада, накіраваныя на сістэматычнае павышэнне цэн, без адпаведнай кампенсацыі?"

2. "Ці падтрымліваеце вы дзеянні Вярхоўнага Савета па забеспячэнні першачарговасці і своечасовасці выплаты заработнай платы і пенсій?"

3. "Ці лічыце вы, што кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады павінны абірацца насельніцтвам адпаведнага рэгіёна?"

Прычым гэтыя пытанні па прапанове Грамады (сацыял-дэмакратычнай партыі) плануецца вынесці на рэферэндум разам з прэзідэнцкімі.

Усе гэтыя патрабаванні былі ўнесены ў тэкст заявы, якую падпісалі прадстаўнікі 14 палітычных партый і дэмакратычных прафсаюзаў.

Сябры БНФ падпісалі заяву з асобнай думкай, у якой адзначылі, што любы рэферэндум як форма народнага волевыяўлення магчымы толькі пасля адстаўкі Прэзідэнта, дэманапалізацыі СМІ і аднаўлення нармальнага функцыянавання дэмакратычных інстытутаў у Рэспубліцы Беларусь.

**Язэп СІНІЦКІ.**

### Да ўвагі тэлегледачоў

13 верасня а 18-ай гадзіне па Беларускім тэлебачанні будзе паказаны чарговы выпуск тэлечасопіса "Роднае слова". Ён цалкам на гэты раз прысвечаны газеце "Наша слова". Гэта будзе своеасаблівая размова праз эфір з грамадскасцю рэспублікі пра лёс газеты, яе будучыню. У перадачы прымае ўдзел галоўны рэдактар Эрнэст Ялугін. Ён падзеліцца сваімі меркаваннямі, развагамі. Вядзе перадачу літаратуразнаўца Уладзімір Содаль.

**С.У.**

З рэдакцыйнай пошты

## Гаспадыня "Беларускай хаткі"

Усё-такі і ў зрусіфікаваным Менску ёсць асяродкі беларускасці. Адна з такіх выспаў у моры русіфікацыі — клуб прыхільнікаў роднага слова і культуры, аматараў вандровак па родным краі "Беларуская хатка", які базуецца па Рабкораўскім завулку. Ужо шмат гадоў у клубе вядзе рэй, фактычна ўзначальвае яго на грамадскіх пачатках цудоўная жанчына, нястомная арганізатарка многіх цікавых мерапрыемстваў Ала Міхайлаўна Ходан.

Калі збіраюцца сябры клуба "Беларуская хатка", яны трапляюць у зычлівую творчую атмасферу, якую і стварае сваёй энергіяй і абаяльнасцю Ала Міхайлаўна. Заўсёды дзівішся, як да яе цягнуцца людзі. Гэта не выпадкова. Карэнная мінчанка, эканаміст па адукацыі, яна не толькі добра валодае роднай мовай, але мае глыбокую эрудыцыю ў гісторыі Беларусі, яе культуры, этнаграфіі, краязнаўстве. Таму ў нас нязмушана завязваецца і вядзецца гаворка пра падзеі з гісторыі, пра выдатных дзеячаў нашай культуры. Разам з Алай Міхайлаўнай сябры клуба не прапускаюць ніводнай значнай мастацкай выставы, дзякуючы чаму яны паглыбляюць свой досвед у гісторыі мастацтва. Пашырэнню культурнага далягляду сяброў клуба садзейнічае і супрацоўніцтва з кінатэатрам "Змена", дзе мы ў складку купляем залу і глядзім заказныя кінастужкі.

Ці не галоўнае ў феномене "Беларускай хаткі",— што вакол яе гуртуюцца шчырыя патрыёты нашай Бацькаўшчыны, якія шануюць родную мову і заўсёды пры нашых сустрэчах, ды і ў побыце карыстаюцца ёю. Гэта ўсім нам прыносіць радасць і задавальненне, узмацняе адчуванне, што Беларусь жыве і будзе жыць!

А якая ж Ала Міхайлаўна нястомная падарожніца! Вандроўкі з ёю бываюць і далёкія, і адносна блізкія, але не меней цікавыя. Напрыклад, яна арганізавала экскурсію ў так званы "Парк камянёў" Інстытута геалогіі АНБ, што ва Уруччы. Напэўна, не шмат жыхароў Менска ведаюць, што ў гэтым унікальным парку з вялізных валуноў выкладзена карта Беларусі, што сцежкі ў парку адпавядаюць рэкам, а пагоркі парка дакладна ў адпаведным маштабе ствараюць рэльеф нашай краіны.

Што ж да іншых паездак, дык сябры клуба разам са сваёй завадатаркай пабывалі і ў Зэльве, дзе магіла Геніюшаў, і ў палацы Сапегаў у Ружанах, і ў Кушлянах, на радзіме Францішка Багушэвіча, і на Віцебшчыне — у мясцінах славутага мастака Язэпа Драздовіча, і шмат дзе яшчэ.

Энергіі гэтай жанчыны сталага веку зайздросціць маладыя. А наблізіцца ў яе "круглы" юбілей, сустрэць які яна збіраецца ў вандроўцы па роднай Беларусі. Дай Бог ёй здароўя!

**Барыс МУСКІ,**
**сябра клуба**
**"Беларуская хатка".**

# Адукацыя сёння:

## *Мы — не рабы. Рабы — нямыя!*

### Хай праз увесь горад, але ў беларускую школу!

У апошніх датах жніўня месца Пагоні на шыльдзе сталічнай сярэдняй школы № 2 заняў новы герб краіны. Ці не стала гэтая змена знакам іншых, больш грунтоўных перамен, якія закранулі большасць школаў Менска?

На гэтае пытанне карэспандэнту "Нашага слова" адказаў дырэктар школы Аляксандр Сядзяка:

— У школе і сапраўды адбыліся змены, не чаканыя намі. Але датычаць яны не мовы навучання — школа была і засталася беларускай,— а кантынгенту вучняў і іх бацькоў.

Першага верасня ў першыя класы прыйшло мноства вучняў з іншых мікраранаў горада. Бацькі прывялі іх да нас таму, што нашая школа аказалася адной з тых нешматлікіх, якія захавалі беларускую мову выкладання.

Зыходзячы з колькасці дзяцей школьнага ўзросту ў нашым мікрараёне, мы планавалі набраць два першыя класы, у выпадку крайняй патрэбы — тры. Але сюды прыйшлі першакласнікі з усяго горада — і з Уручча, і з Курасоўшчыны, і з Дражні. І мы змушаныя былі стварыць ажно чатыры першыя класы, нягледзячы на недахоп настаўнікаў і нават мэблі.

Падобная сітуацыя склалася і ў пятых класах. У іх перайшло шмат дзяцей са школаў, дзе, нягледзячы на патрабаванні бацькоў, была змененая мова навучання.

Калі бацькі нават у цяперашні час свядома вядуць сваіх дзяцей у беларускую школу, якая знаходзіцца на другім канцы горада, значыць яны па-свойму ўяўляюць будучыню і іх, і гэтай краіны. Значыць, яны думаюць, што праз адзінаццаць гадоў іхнія дзеці ўсё ж скончаць школу ў нармальнай, цывілізаванай, суверэннай беларускай дзяржаве.

Таму, нягледзячы на цяжкасці, мы не хочам згубіць ніводнага беларускамоўнага вучня і не адмаўляем нікому. Бо гэтыя дзеці — будучыня Беларусі.

**Распытваў У.П.**

***Ад рэдакцыі.*** *Шаноўныя чытачы, патрыёты Беларусі! Таварыства беларускай мовы заклікае ўсіх грамадзянаў краіны падтрымаць беларускамоўныя школы і класы, дзе вучацца тыя, хто заўтра возьме на сябе клопат пра годнае жыццё Маці-Беларусі і яе народа. Хто грашыма, хто асабістай працай, хто добрым словам падтрымайце дзетак і іх бацькоў і настаўнікаў, якія мужна адстойваюць нацыянальную годнасць усіх беларусаў.*

*Просім паведамляць у рэдакцыю і пра падтрымку прадпрымальнікамі беларускіх школ і класаў. Будзем разам — выстаім!*

### Магло быць горш

Як паведаміла намеснік Першамайскага РАНА па вучэбнай рабоце г.Менска Людміла Міхайлаўна Тамашэвіч, у раёне дзейнічаюць дзве беларускамоўныя сярэднія навучальныя ўстановы — СШ № 190 і гімназія № 93. У іх сёлета адкрыта 15 першых класаў (у мінулым годзе было 22!) з агульнай колькасцю першакласнікаў 340. Акрамя таго, у многіх школах раёна з расійскай мовай навучання адкрыты беларускамоўныя класы агульным лікам 17.

А здараецца і наадварот. Напрыклад, школа № 137, якая месціцца ў мікраранаё Усход-1, у недалёкім мінулым "чыста" беларускамоўная, сёлета,— вядома ж, з "патрабавання бацькоў",— адкрыла ў сябе паралельна з двума беларускамоўнымі два расійскамоўныя першыя класы. Прычым, калі беларускіх першакласнікаў набралася 50, дык у расійскамоўныя класы — каля 70-ці. Многія настаўнікі гэтай школы, з якімі даводзілася гаварыць, такім становішчам незадаволеныя. Намеснік дырэктара 137-й школы па вучэбнай рабоце Раіса Мікалаеўна Старавойтава казала, што пры камплектаванні класаў многія бацькі-беларусы, якія гавораць на гарадской трасянцы, настойвалі, каб іх дзяцей залічылі ў расійскамоўныя клас.

Сітуацыя зразумелая: маем што маем.

**А.Ігнатовіч.**

# "Радыё 101,2" — толькі пачатак?

Ці можа быць папулярнай беларускамоўная радыёстанцыя ў краіне, дзе афіцыйны статус беларускай мовы намаганнямі ўладаў няспынна паніжаецца? Насуперак чаканням многіх, на гэтае пытанне слушна будзе даць станоўчы адказ.

Такая станцыя — "Радыё 101,2" — была створаная трохі больш за год таму. Яе заснавальнікамі сталі звольненыя з дзяржаўнага радыё за нежаданне актыўна прапагандаваць на ім палітыку ўрада супрацоўнікі папулярнай студыі "Беларуская маладзёжная". Пазней, атрымаўшы грант на стварэнне незалежнай ад дзяржавы станцыі, яны заснавалі ўласную студыю, набылі абсталяванне, аплацілі арэнду эфірнага часу і выходзілі ў эфір на частаце 101,2 Мгц, прымаць стэрэапраграмы на якой было магчыма ў сталіцы і бліжэйшым наваколлі. На працягу года, месяца і тыдня менчукі, уключыўшы свае прыёмнікі, маглі чуць добрую музыку, апошнія навіны краіны і свету, рэтрансляцыю праграм радыё Вялікай Брытаніі, Германіі, Польшчы ды рэкламу. Перадачы, з рэдкім выключэннем, ішлі ў эфір пабеларуску, ствараючы цалкам новы вобраз мовы і яе носьбітаў — не згодных з усім сялян з занядбаных калхозаў, а людзей, якія жывуць нармальным жыццём — займаюцца бізнесам, слухаюць папулярную ва ўсім свеце музыку ды маюць уласны погляд на падзеі ў краіне і ў свеце. Сёлета ўзровень папулярнасці інфармацыйных праграм "Радыё 101,2" дасягнуў 50%, а агульны перавысіў 30% — і гэта з улікам таго, што ў адным з ім дыяпазоне працавалі першая праграма дзяржаўнага радыё ды дзве прыватныя расійскамоўныя станцыі — мясцовая і рэтрансляваная з Масквы. Час працы станцыі ў эфіры вырас з трох да трынаццаці гадзін за суткі.

Але скуль узяўся гэты тэрмін — год, месяц і тыдзень? У пятніцу, 30 жніўня, напярэдадні выхадных дзён, супрацоўнікі "Радыё 101,2" атрымалі факс наступнага зместу: "В целях исключения помех в приёмных каналах ЦС РТС "Алтай" эксплуатацию передатчика на частоте 101,2 Мгц с использованием АФС на опоре по адресу: ул. Коммунистическая,6 прекратить с 1.09.96 г. Нач. БелГИЭ В.А. Никонов". Наступным ранкам 1 верасня "Радыё 101,2" у эфір не выйшла. Два дзесяткі яго супрацоўнікаў сталі беспрацоўнымі.

Ці выключна з тэхнічных прычын была зачынена радыёстанцыя? Тэхнічныя характарыстыкі перадатчыка, які транслюваў яе праграмы, і сапраўды не цалкам адпавядалі стандарту. Але ж гэты перадатчык — сваю маёмасць — радыёстанцыя згодна з існуючымі правіламі ад пачатку сваёй дзейнасці была змушаная перадаць на баланс дзяржаўнай арганізацыі — РРТПЦ, якая ўзяла на сябе абавязак яго абслугоўвання і эксплуатацыі. Цікава, што за час працы — з 21 ліпеня 1995 года — "Радыё 101,2" не атрымала ніводнай заўвагі ці папярэджання адносна тэхнічных характарыстык перадатчыка. Што тычыцца цяперашняга становішча, дык адказным за яго відавочна з'яўляецца карыстальнік — дзяржаўны тэле-радыётрансляцыйны цэнтр. Але пацярпеў не ён.

Існуе яшчэ адна версія закрыцця беларускай станцыі: ходзяць чуткі, што на яе частату прэтэндуе іншая праграма — расійскае "Радио Ностальжи" ці нейкая іншая расійская радыёстанцыя кшталту даўно ўжо чутнага ў беларускім эфіры маскоўскага "Радио Рокс".

Што чакае "Радыё 101,2"? Сродкі на сваё існаванне яно атрымлівала амаль выключна ад рэкламадаўцаў. Спыненне трансляцыі праграм азначае парушэнне дамоваў з імі і больш таго — адсутнасць новых заказаў на будучыню, а значыць, фінансавы крах. Такім чынам замест планаванага пашырэння абсягу прыёму і далейшага павелічэння часу працы ў эфіры спыніць сваю дзейнасць адзіная ў краіне незалежная ад дзяржавы беларускамоўная радыёстанцыя.

— У сродках масавай інфармацыі адбыўся раскол. Іх падзялілі на два лагеры: на тых, што дапушчаныя ў калідоры ўлады, і на тых, што заўтра будуць пазбаўленыя дзяржаўнай падтрымкі. Нас падзялілі на "правільных" і "няправільных",— сказала адна са стваральнікаў "Радыё 101,2", старшыня Асацыяцыі беларускіх журналістаў Жана Літвіна на прэс-канферэнцыі, што з нагоды закрыцця станцыі адбылася 3 верасня ў сталічным Доме ўрада.

Думаецца, яна мела рацыю. Напярэдадні мінулагодняга рэферэндуму ўлады, спаслаўшыся на тэхнічныя прычыны, закрылі адзіны ў Менску недзяржаўны 8-ы тэлеканал.

Напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет былі адключаныя перадатчыкі, што рэтраслявалі тэлестанцыі Расіі, якія ў той час паказвалі серыю праграм аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Напярэдадні чарговага прэзідэнцкага рэферэндуму і "ўсебеларускага народнага сходу" было закрыта "Радыё 101,2" і пачалася фінансавая праверка недзяржаўных газет — "Белорусской деловой газеты", "Белорусской газеты", "Белорусского рынка", "Свабоды", "Народнай волі" і нават "Minsk economic news".

1 верасня Беларусь адзначыла Дзень беларускага пісьменства і друку.

1 верасня беларуская газета "Звязда" надрукавала тэкст прапанаванай Прэзідэнтам новай беларускай Канстытуцыі, але ўжо на расійскай мове.

1 верасня была спынена трансляцыя адзінай у Беларусі беларускамоўнай прыватнай радыёстанцыі.

Хто з носьбітаў беларускага слова будзе наступным? Хто займе іх месца?

**У.ПАНАДА.**

# “Законы павінны выконвацца”

***Беларускі Хельсінкскі камітэт — арганізацыя адносна маладая, афіцыйна зарэгістраваная 1 лістапада 1995 года. Тады ў яго склад уваходзіла 52 асобы, цяпер — больш за 70. Удзельнікамі Хельсінкскага камітэта з'яўляюцца і цэлыя арганізацыі, якія таксама займаюцца праваахоўнай дзейнасцю: “Ахова чалавечых каштоўнасцяў”, “Валошка”, заяву на ўступ падаў Клуб выбаршчыкаў Магілёва.***

***Камітэт складаецца з дзесяці камісіяў, якія даследуюць і натуюць факты парушэння дзяржаваю правоў асобы ў розных сферах чалавечага жыцця, напрыклад, прафесійнай ці рэлігійнай. Але гутарка карэспандэнта “Нашага слова” са старшынёй Рады Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццянай Процькай найперш датычыла праблем моўных і нацыянальных.***

**— У Агульнай дэкларацыі правоў чалавека занатаваныя найперш правы нацыянальных меншасцяў. Але ў нашай краіне абароны патрабуюць не яны...**

— Так, ва ўсіх міжнародных пактах, што датычаць правоў чалавека, нацыянальная большасць ці, інакш кажучы, тытульная нацыя выступае ў якасці гаранта гэтых правоў. Але ў Беларусі склалася ўнікальная сітуацыя: менавіта правы нацыі абмяжоўваюцца сёння і патрабуюць абароны. Гэта — адзіны выпадак у свеце: дзяржава, створаная тытульнай нацыяй і маючая абавязкам гарантаванне яе правоў, не робіць гэтага.

**— Чаму, на Ваш погляд, гэта адбываецца?**

— Я ўжо казала: дзяржаву стварае дзейнасць тытульнай нацыі, супольная праца, прыватная ўласнасць і капітал якой ствараюць падмурак дзяржавы, напрыклад, тыя ж бюджэтныя паступленні. Але ў нашай краіне людзі, якія вызначаюць сябе беларусамі, распараджаюцца толькі нязначнай часткаю як прыватнай, так і дзяржаўнай маёмасці. З гэтай прычыны не яны кіруюць у дзяржаве і не іхнія правы і інтарэсы ў першую чаргу абараняе ўрад.

**— Урад прапагандуе інтэрнацыяналізм?**

— Увогуле, гэта няблага. Але ж у такім разе людзі, якія гавораць па-беларуску, павінны мець магчымасць поўнай рэалізацыі сваіх правоў на выхаванне дзяцей у сваім культурным асяроддзі, на задавальненне ўсіх сваіх культурных і моўных патрабаванняў — гэта значыць, на роўна шырокае ўжыванне сваёй мовы на ўсіх сферах грамадскага і дзяржаўнага жыцця. Але гэтае іхняе права парушаецца. І таму мы выступаем у падтрымку менавіта тытульнай нацыі, за гарантаванне тых яе правоў, якія запісаныя ў Канстытуцыі і маюць быць абароненымі законамі.

**— Якія захады да таго робіць ваша арганізацыя?**

— Нядаўна ў Іспаніі адбыўся лінгвістычны кангрэс, на якім абмяркоўваліся правы нацыянальных меншасцяў і большасці. У яго працы і распрацоўцы выніковых дакументаў браў удзел і прадстаўнік нашай арганізацыі.

А непасрэдна нас найбольш цікавіць праблема беларускамоўнай адукацыі і выканання законаў аб адукацыі і аб мовах. Законы павінны выконвацца — гэта галоўны прынцып прававой дзяржавы. Таму на кожнае іх парушэнне мы востра рэагуем.

Акрамя таго, сябры нашай арганізацыі працуюць над аналізам паправак да Закона аб адукацыі, якія цяпер распрацоўваюцца Міністэрствам адукацыі і навукі і адпаведнай камісіяй ВС. Глядзім іх адпаведнасць з міжнароднымі прававымі актамі.

**— Ці займаецца Камітэт зборам звестак аб фактах парушэння моўнай ці этнічнай роўнасці беларусаў?**

— Канешне. І мы не проста збіраем інфармацыю. Сабраныя намі звесткі аб пагаршэнні стану беларускамоўнага школьніцтва я перадала Старшыні Вярхоўнага Савета пад час нядаўняй з ім сустрэчы, а разам з імі — складзены Камітэтам ліст з нашымі меркаваннямі адносна гэтай праблемы.

Справа збору падобных звестак цяпер стала актуальнай тым больш, што выпадкі парушэння правоў бацькоў і дзяцей на свабодны выбар мовы навучання здараюцца ўсё часцей і паўсюдна.

**— Ваша арганізацыя можа аказаць нейкую падтрымку людзям, чые правы парушаюцца?**

— Мы можам даць ім юрыдычную кансультацыю ці распаўсюдзіць звесткі аб іх выпадку ў краі ці за мяжою. Гэта не так шмат, але мы робім, што можам.

**— Нядаўна ТБМ супольна з ТБШ прыняло заяву аб стварэнні “Белай кнігі” — збору дакументальных сведчанняў парушэнняў моўнай роўнасці грамадзян Беларусі. Ці кантактуюць яны, займаючыся гэтай працай, з вашай арганізацыяй?**

— На жаль, ніякіх кантактаў у гэтай справе мы не маем. Але мы ствараем уласную “Белую кнігу” аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі, якая будзе гатовая ў канцы гэтага года. Там будуць занатаваныя факты парушэння не толькі грамадзянскіх і палітычных правоў асобы, арганізацый, але і праблемы моўныя.

Я бачу, што сёння большасць нашых праваахоўных арганізацый дзейнічае самастойна, але думаю, што наспеў час супольнай працы. Таму мы заўсёды падтрымаем любыя прапановы агульнай дзейнасці ад тых, хто займаецца адной з намі справай.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

Для тых з нашых чытачоў, якія хацелі б звязацца з Беларускім Хельсінкскім камітэтам, ладаем яго каардынаты: 220029, Менск, вул.Варвашэні, 20. Тэл. (017) 268-73-23, 268-73-26, 236-95-73.

# Што могуць перакладчыкі

*На пытанні карэспандэнта “Нашага слова” адказвае літаратуразнавец і перакладчык, старшыня секцыі мастацкага перакладу і сувязяў Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Чарота.*

**— Іван Аляксеевіч, нейкі час таму пры рэдакцыі “Нашага слова” і пры вашым актыўным удзеле працаваў “Клуб перакладчыкаў”. Яго дзейнасць прыпынілася, калі каардынатар Віктар Шніп пайшоў з рэдакцыі. Ці згодны Вы, што варта аднавіць работу клуба?**

— Абсалютна згодзен! Вельмі добра, каб так было.

**— Чаго “Наша слова” можа чакаць ад, так бы мовіць, цэха перакладчыкаў? Перакладчыцкіх твораў на старонках друку не відаць, не выходзяць, за рэдкім выключэннем, іх кніжкі... Не чуваць пра дзейнасць секцыі мастацкага перакладу і сувязяў. Ці не ёсць гэта прычынай таго, што старшыня надае шмат увагі супрацоўніцтву з рэлігійнымі арганізацыямі?**

— Так, я з'яўляюся сакратаром Біблійнай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы, з якой актыўна супрацоўнічаюць некаторыя з нашых перакладчыкаў. Камісія занятая вельмі важнай справай — падрыхтоўкай і выданнем на беларускай мове тэкстаў Святога Пісьма, богаслужбовых і багаслоўскіх тэкстаў на сучасную беларускую мову.

Сапраўды, арганізацыйная праца ў Саюзе пісьменнікаў апошнім часам неяк замірае. Але наша секцыя, без пахвальбы, яшчэ самая арганізаваная. Мы па-ранейшаму досыць рэгулярна праводзім пасяджэнні. А супрацоўніцтва з Біблійнай камісіяй Беларускай Праваслаўнай Царквы і выдавецкім аддзелам Беларускага праваслаўнага брацтва святых Віленскіх Мучанікаў ёсць нейкі стымулюючы чыннік збоку. Гэта пэўным чынам стымулюе працу самой секцыі мастацкага перакладу.

**— Перакладчыцкі “цэх”, што ён сабой уяўляе па персанальным складзе? Як старшыня секцыі, каго Вы можаце залічыць у яе актыў?**

— Я думаю, што мы з вамі залічваемся. Але ж на пальцах можна пералічыць тых, хто сапраўды рэагуе на нейкія запрашэнні, на позвы прыйсці і нешта рабіць разам. Цяпер усе дужа занятыя. Наогул, гэта балючае пытанне. Абсалютна не бачна маладой змены. І вось у гэтым плане газета “Наша слова” магла б вельмі памагчы перакладчыцкаму цэху ў актывізацыі яго дзейнасці. Тады, калі пры рэдакцыі быў створаны Клуб перакладчыкаў, далі былі старонку маладым, студэнтам інстытута замежных моў, іх прадставіў Леанід Аляксеевіч Казыра, наш калега, які там працуе. Гэта першая спроба прадставіць маладых перакладчыкаў. А варта было б зрабіць традыцыяй — ім надрукавацца яшчэ цяжэй, як нам з вамі. Бо іх могуць захопліваць усялякія камерцыйныя структуры, даючы ім, канечне, грошы, але адразу скіроўваючы ў бок, які вялікай карысці ні нацыянальнай культуры, ні літаратуры не прынясе.

**— Дык Вы, Іван Аляксеевіч, лічыце, што калі разгарнуць дзейнасць Клуба перакладчыкаў, “Наша слова” можа паспрыяць развіццю мастацкага перакладу, а перакладчыкі, у сваю чаргу, могуць быць карыснымі газеце?**

— Безумоўна... Тут узаемная карысць. На пераклады зараз няма трывалай трыбуны. На асветныя, выхаваўчыя мэты мы не маем ніводнага выдання, якое б бралася за перакладныя тэксты. Часопіс “Беларусь” амаль не дае перакладаў, амаль не даюць перакладаў “Полымя” і “ЛіМ”, адмаўляючы перакладчыкам са спасылкай на тое, што трэба выконваць умовы канвенцыі па аўтарскаму праву. А газетныя публікацыі не абавязкова пашпартызуюцца, тут усё прасцей. Значыць, у перакладчыкаў і газеты — узаемная карысць. На газетнай паласе пераклады праходзяць апрабацыю, паступова назапашваюцца тэксты, з цягам часу іх збіраецца на кніжку. Вось як нейкі час таму ў “Нашым слове” была рубрыка Лявона Баршчэўскага “Скарбы сусветнай паэзіі”... Урэшце яго пераклады рэалізаваліся ў “Хрэстаматыі сусветнай паэзіі”, якая выйшла ў выдавецтве ліцэя, дзе працуе спадар Баршчэўскі. Такую ж апрабацыю, выхад да чытача маглі б мець і новыя пераклады з сусветнай літаратуры — кароткія апавяданні, казкі, вершы для дзяцей. Адно, што трэба вызначыць аптымальныя памеры твораў, межы цыклаў.

**— Адчуваецца, што Вы асабліва заклапочаны літаратурай для дзяцей.**

— Такой літаратуры на добрай беларускай мове вельмі і вельмі бракуе дзецям, якіх мы хочам выхаваць у традыцыях патрыятызму, бракуе класічнай, традыцыйнай прозы. Коміксы, якія цяпер выпускаюцца, яны ж дэбілізуюць малых. А ёсць жа магутная класіка! У жанрах навелістыкі, кароткага апавядання, літаратурнай казкі ёсць вялікія духоўныя скарбы, якія трэба рэалізоўваць на карысць выхавання беларускіх дзяцей.

**— Ну, а ў Вас асабіста ці ёсць што ў “партфелі” нашай рэдакцыі?**

— Так, я даваў на пробу апавяданне Іва Андрыча — класіка, Нобелеўскага лаўрэата,— “Акно”. Яно перакладзена ці не на 40 моваў свету. Сюжэт не буду пераказваць. Яно з такім магутным выхаваўчым патэнцыялам, прычым, без дыдактыкі, без навязвання — гэта проста глыбокі аналіз аднаго з выпадкаў у дзяцінстве героя. У дзяцінстве ён зрабіў шкоду, тады не разумеючы да канца, што гэта шкода. Усё жыццё гэта яго шкрэбла, бянтэжыла, не давала спакою, пакуль не вылілася ў своеасаблівае пакаянне... Такія класічныя рэчы абавязкова будуць уздзейнічаць на душу дзіцяці, узвышаць, рабіць больш духоўным, высакародным.

**— Вернемся да папярэдняга пытання. Вас хвалюе праблема выдання літаратуры для дзяцей...**

— Як мне думаецца, на цяперашні момант гэта стала самай балючай праблемай, практычна невырашальнаю для нашых выдавецтваў. Дзіцячая кніжка не можа быць высокага кошту. Калі яе кошт высокі, яна не купляецца, не прадаецца. А выдавецтвы не маюць магчымасці выдаваць танныя кнігі.

**— А ці ёсць, на Вашу думку, у перакладчыкаў што выдаваць?**

— Мяркую, многія нашы калегі маюць наробак немалы, але не могуць выдавацца. У мяне, напрыклад, ёсць ужо гатовыя чатыры дзіцячыя кніжкі з моў народаў былой Югаславіі — з сербскай, македонскай, славенскай, русінскай. Ёсць зборнік казак, які мог быць вельмі цікавым хоць бы таму, што фальклор гэтых народаў не прадстаўляўся ў нас у такой паўнаце і аб'ёме. Тым больш, што гэтага патрабуе сучасная школа, арыентаваная на больш глыбокую інфармацыю дзяцей-навучэнцаў. Мяне нават трохі здзівіла, што ў выдавецтве “Юнацтва”, дзе плануецца выдаваць серыю лепшых твораў сусветнай літаратуры для дзяцей, у мяне нават не папыталіся пра казкі народаў Югаславіі. Хіба можна гаварыць пра казачны эпас, фальклор народаў свету, не прадставіўшы такі моцны фальклорны рэгіён, як паўднёвыя славяне?

**— Вядома, трэба ўлічваць цяперашнія эканамічныя варункі. А з другога боку, і сацыяльна-палітычныя... Калі чынавенства ўсіх узроўняў, спасылаючыся на вынікі сумнавядомага рэферэндуму, перастала лічыцца з законнымі інтарэсамі беларусаў і ўпарта, безадказна вядзе лінію дэбеларусізацыі, грамадству трэба нешта гэтаму супрацьпаставіць. Дык што могуць зрабіць перакладчыкі?**

— Я ўпэўнены, перакладчыкі могуць шмат зрабіць для паглыблення цікавасці чытачоў, асабліва дзяцей, да беларускай мовы праз пераклады цікавых казак, кароткіх апавяданняў, якія выдаваліся б няхай у сціплым афармленні, але вялікімі тыражамі. Распачаць бы такую серыю тоненькіх танных кніжак для дзяцей, як калісьці выдаваў для шырокай масы, для сялянскіх дзяцей Леў Мікалаевіч Талстой. Гэта павінны рабіць і мы. Патрэбна толькі выдавецкая база. Калі б знайшлося нейкае выдавецтва, якое магло б выпускаць невялічкія кніжачкі брашурнага тыпу — няхай на газетнай паперы, няхай і афармленне будзе някідкае,— гэта была б вельмі важная справа, на гэта адрэагавала б шырокая маса ў нашым грамадстве, і школа, напэўна,— найперш. Дарэчы, у гэтым павінна быць зацікаўлена наша Таварыства беларускай мовы.

**— Дык за справу, Іван Аляксеевіч! Што б Вы, маючы багаты арганізатарскі вопыт, параілі, якім чынам арганізаваць работу нашага Клуба перакладчыкаў? З чаго пачынаць?**

— Зрабіць усё дзеля таго, каб перакладчыкі ў прызначаны дзень і час збіраліся. Хоць цяпер усім цяжкавата з часам, усе занятыя, але трэба быць настойлівымі. Запрашаць людзей, асабіста кожнаму тэлефанаваць. Няхай кожны прыходзіць з набалелым, са сваімі ідэямі, разам мы ўсё абмяркуем, вызначым шляхі вырашэння праблем. Мы будзем рабіць усё магчымае, каб перакладчыцкія праблемы шырэй даходзілі да тых, хто ў гэтым зацікаўлены, каб стымуляваліся вынікі, праца перакладчыкаў.

**— Іван Аляксеевіч, апошняе пытанне: як Вы мяркуеце, ці можам мы — і рэдакцыя “Нашага слова”, і Клуб перакладчыкаў, і нашы чытачы — мець нейкую карысць ад вашага супрацоўніцтва з Біблійнай камісіяй Беларускай Праваслаўнай Царквы? Нам пішуць вернікі...**

— Сапраўды, на вашай старонцы “Веруем” можна даваць адказы спецыялістаў на пытанні чытачоў па тэкстах Святога Пісьма, папрасіўшы таго ці іншага сябра Біблійнай камісіі. Можна мабілізаваць перакладчыкаў на пераклад духоўнай паэзіі і стабільна друкаваць лепшыя з іх. Можна было б нават ладзіць своеасаблівыя конкурсы.

**Распытваў Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

*Згадкі*

# Гальшаны: мастацкі вобраз і рэчаіснасць

Чорны замак Альшанскі. Месяц нырае ў хмарах. Вежы туманныя ў змроку сны аб мінулым марацць... Хто не заседжваўся да глыбокай ночы над старонкамі рамана Уладзіміра Караткевіча, не ў змозе адарвацца ад таямніц старажытных першадрукаў і замкавых сутарэнняў, ад перыпетыяў лёсу яго герояў... Хто не падпадаў пад зачараванне іранічна-ўзнёслай і рамантычнай нізанкі неверагодных падзей і яскравых характараў. Каго не вабілі "велікапышнае і адначасова простае беларускае барока" альшанскага касцёла, "брама-тунэль у пячору страшнага гіганта-волата" — альшанскага замка; каго не цягнула адшукаць на мапе Беларусі гэтыя Альшаны і на свае вочы ўбачыць баракальны касцёл, сваімі рукамі памацаць сярэднявечную мурок...

Але, няма сумневу, што тыя Альшаны існуюць толькі на прасторы старонак знакамітага рамана. Як несумненна і тое, што ёсць на Беларусі прататып Альшан і "чорнага замка". Гэта — Гальшаны, вёска Ашмянскага раёна з сярэднявечным замкам, касцёлам і былым кляштарам францішканаў, з брукаванымі вулкамі, капліцамі, крыжамі і незлічонай колькасцю легендаў пра скарбы, пра замураваных ахвяраў, пра таямнічыя правалы...

"Не трэба шукаць у рамане простага фотаздымка з Гальшан",— пісаў навучэнцам Гальшанскай сярэдняй школы Уладзімір Караткевіч. Але настрой, каларыт і, галоўнае, выразнае адчуванне подыху сярэднявечча ў забудове, у мясцовых паданнях — гэта адсюль, з Гальшан. І ці так ужо важна, што замак пабудаваны не ў сярэдзіне, а напрыканцы шаснаццатага стагоддзя і не Гальшанскімі, а ўжо Сапегамі, за аднаго з якіх — Паўла — пайшла замуж Алена Гальшанская, апошняя з роду... Дэталі гальшанскага краявіду перайначаныя, пераасэнсаваныя, але, безумоўна, пазнавальныя. Сапраўды браў удзел у змове 1481 года Іван Юр'евіч Гальшанскі разам з Міхалам Альелькавічам і Фёдарам Бельскім. Праваслаўныя князі, незадаволеныя прывілеямі каталікам, планавалі забіць Казіміра Ягелона пад час вяселля Бельскага і "самім правіць краінай. А як ужо не пашанцуе, то ўзняць край і трымацца да апошняга. А як і гэтага не атрымаецца, то з усімі сваімі ўладаннямі ад княства адсесці і шукаць падмогі ў Масквы."

Чаму літаральна за некалькі дзён да выканання змова была раскрытая — невядома. Але наўрад ці здрадзіў Гальшанскі, бо ён быў арыштаваны і пакараны смерцю. А ў 1612 годзе, калі ў Альшанах, у свеце, створаным Караткевічам, замуроўваюць у сутарэнні замка Валюжыніча і Ганну Гардзіславу Альшанскую — у рэчаісных Гальшанах Павел Стэфан Сапега, уладальнік мястэчка і віцэ-канцлер Вялікага Княства Літоўскага, заканчвае будаўніцтва мураванага замка замест спарахнелага драўлянага родавага гнязда Гальшанскіх, у 1618 годзе фундуе кляштар і касцёл для ордэна францішканаў. І хаця ані гадзінніка на вежы, ані саміх вежаў касцёл не мае, ад гэтага ён не робіцца менш уражлівым, манументальным і змрочна-ўрачыстым. Пад фігурным баракальным шчытам франтона — уваход у "вялізную пячору касцёла", у "змрок, напоены светам".

Адметнасць касцёла — фрэска васемнаццатага стагоддзя ў прэзбітэрыі. Намаляваныя на плоскай сцяне каланады і аркі ствараюць поўную ілюзію паўкруглай апсіды. Цудоўная фрэска — амаль адзінае, што захавалася ў касцёле ад мінулых стагоддзяў. У пяцідзесятых гадах храм быў зачынены і разрабаваны, разрабаваная і крыпта з пахаваннямі Сапегаў. У ратондзе касцёла меўся мармуровы нагробак са статуямі спячага Паўла Стэфана Сапегі ў рыцарскіх латах і трох ягоных жонак у манаскім адзенні. Чацвёртая жонка перажыла Паўла Стэфана і сама яго пахавала.

Адзінае цэлае з касцёлам стварае будынак кляштара францішканаў. Аб кляштары ў рамане Караткевіча ані слова. Але вось чаму: несумненна, сам "чорны замак" — гэта пераасэнсаванае спалучэнне замка Сапегаў і кляштара францішканаў. Двухпавярховы будынак кляштара, спланаваны па галерэйнай сістэме, з кутнімі вежамі (захавалася адна) замыкаецца наўкол касцёла, ствараючы цалкам закрыты ўнутраны двор. Сцены метровай таўшчыні хавалі сістэму ацяплення ад трох камінаў. Хаця і сам замак не бедны на падвалы, але сапраўдныя сутарэнні існуюць пад францішканскім кляштарам. На іх можна зірнуць праз краты ў галерэі, а можна і спусціцца і паблукаць па змрочных пераходах і трох залах падзямелля.

Кляштар захаваўся: ён ніколі не разбураўся, не перабудоўваўся. Больш сумны лёс напаткаў замак. Ён неаднаразова быў пашкоджаны пад час войнаў, перабудоўваўся на працягу двух апошніх стагоддзяў. Гледзячы на руіны, цяжка ўявіць, што ў XVII ст. Гальшанскі замак мог паспрачацца прыгажосцю з Нясвіжскім і Мірскім, якімі мы так захапляемся.

Калі існуе сувязь паміж насычанасцю асяроддзя помнікамі даўніны і ўстановамі культуры, дык выяўляецца гэта менавіта ў Гальшанах. Бо ў невялікай вёсцы працуюць ажно два музеі высокага ўзроўню! Абодва непаўторныя. Частка францішканскага кляштара аддадзена пад філіял Нацыянальнага мастацкага музея, дзе гаспадарыць загадчыца Часлава Францаўна Акулевіч і яе мілыя супрацоўніцы. Акрамя невялікай сталай экспазіцыі, філіял ладзіць выставы з запаснікаў музея. Здаецца, не ўсе нават райцэнтры маюць магчымасць знаёміць сваіх жыхароў з такой колькасцю мастацкіх твораў. Другі цуд Гальшан — школьны гісторыка-краязнаўчы музей, якому пазайздросціў бы іншы музей дзяржаўны. У прафесійна афармленых залах — знойдзеныя на гальшанскім гарадзішчы прасліцы, керамічны посуд, жалезныя гаспадарчыя прылады з ранняга сярэднявечча; пячаткі, кафля, шкло семнаццатага стагоддзя; зброя, кандэлябры, ключы XVIII-XIX стагоддзяў; патэфон і шолам пажарніка "з польскага часу"... Стваральнік музея і натхніцель яго дзейнасці — дырэктар Гальшанскай сярэдняй школы Эдуард Сямёнавіч Корзун.

Часта бывае, што нейкае мястэчка толькі тым і знакамітае, што аб ім узгадаў славуты аўтар. З Гальшанамі — іншае. Рэальныя гістарычныя падзеі, самабытныя паданні нібы выплёскваюцца за старонкі рамана Караткевіча. Тым больш шкада, што трапіць у гэты чароўны край можна толькі пыльнымі прасялковымі дарогамі і "польскім" брукам, што парастае лаўжом замкавы падворак, гніюць гадамі рыштаванні ля сцен кляштара. Ці зруйнуецца мурок і змарнеюць намаганні — ці, можа, не толькі ў марах паўстане адроджанае мястэчка са старажытнай забудовай і выгодамі цывілізацыі, утульнае і карыснае для жыхароў, прывабнае для турыстаў, запаведнае і сучаснае?

**Наталля МЯЦЕЛЬСКАЯ,**
**старшыня фонду "Гальшанскі замак".**

*Замежжа*

# Таварыства мовы ў ЗША

Што клапоціць сёння грамадзян Злучаных Штатаў — неабходнасць зрабіць выбар паміж Робертам Доўлам і Білам Клінтанам на блізкіх прэзідэнцкіх выбарах ці хваля тэрарызму, што дакацілася і да ЗША? Гэтыя рэчы — так, але не толькі яны. У краіне кіпяць спрэчкі вакол праблемы, добра вядомай і нам — моўнай. Амерыканцы змагаюцца за родную мову — англійскую. Мностка англамоўных грамадзян краіны патрабуюць афіцыйнага надання іх мове статуса афіцыйнай і дзяржаўнай, якога яна дагэтуль не мае.

Як узнікла моўная праблема ў ЗША? Паводле законаў гэтай краіны дзіця, народжанае на яе тэрыторыі, мае права на атрыманне амерыканскага грамадзянства нават тады, калі ягоныя бацькі — абывацелі іншай краіны. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў пераважную большасць у ліку гэткіх новых амерыканцаў складалі дзеці нелегальных мігрантаў з краін Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі. Акрамя нелегалаў, некалькі мільёнаў лацінаамерыканцаў легальна пераехалі ў ЗША, шукаючы там лепшага жыцця.

Сёняшнія дыскусіі аб статусе англійскай мовы ўзняліся менавіта з-за іх, новых амерыканцаў, якія не толькі ў прыватным, але і ў грамадскім, прафесійным і дзяржаўным жыцці карыстаюцца выключна іспанскай мовай, не жадаючы вывучаць англійскую. І кола ўжывання апошняй паступова змяншаецца з пашырэннем сферы ўжывання мовы іспанскай.

У адказ на гэта ў штаце Арызона ўжо падрыхтаваны закон, які забараняе работнікам дзяржаўных арганізацый і ўстановаў карыстацца на службе ўсялякімі, акрамя англійскай, мовамі. У гэтым жа штаце створаная грамадская арганізацыя "Арызонцы ў абарону англійскай мовы". Вось што гаворыць адзін з яе лідэраў Роберт Паркс:

— Пытанне мовы з'яўляецца прынцыповым. Калі яшчэ якаянебудзь, акрамя англійскай, мова атрымае статус дзяржаўнай, зменіцца кірунак усяго гістарычнага шляху Амерыкі.

Ці сапраўды існуе пагроза англійскай мове ў ЗША — краіне, у якой яна дагэтуль была адзінай і адкуль яна разам з амерыканскай культурай распаўсюдзілася па ўсім свеце, стаўшы моваю міжнародных зносінаў?

Жыхары Нью-Йорка, набраўшы нумар сэрвіснай службы адной з гарадскіх тэлефонных кампаній, пачуюць адказ па-кітайску — адной са ста сарака моваў, якімі карыстаюцца ў побыце жыхары мегаполіса. У штаце Масачусетс экзамен на атрыманне шафёрскіх правоў можна здаваць на выбар адной з дваццаці чатырох моваў, бо купіць машыну ў Амерыцы можна хутчэй, чым вывучыць мову большасці. Але гэтая большасць ужо перастала быць абсалютнай: трыццаць мільёнаў амерыканцаў дома гавораць не па-англійску. Спасылаючыся на гэтую лічбу, прыхільнікі дзяржаўнасці англійскай мовы малююць жудасны вобраз будучыні, у якой першае пакаленне эмігрантаў адсуне носьбітаў англійскай мовы на ўзбочыну жыцця.

Праўда, ёсць і іншыя пункты гледжання:

— Няма падставаў заносіць англійскую мову ў Чырвоную кнігу. Яна была і застаецца галоўнай у ЗША. А патрабаванне зрабіць яе адзінай проста нецывілізаванае, — лічыць жыхар тае ж Арызоны, апанент стваральнікаў закона аб мове, юрыст Стывен Мантойя.

Аднак арганізацыя, якая змагаецца за дзяржаўны статус англійскай мовы, ужо аб'яднала 400 000 амерыканцаў, перакананых у тым, што чалавек, які хоча жыць у Амерыцы і карыстацца ўсімі перавагамі гэтага, мусіць ведаць мову. Асабліва актыўна арганізацыя выступае супраць неангламоўнага школьніцтва. "Расісты, якія хочуць бачыць ЗША краінай белых англасаксаў" — гэткія абвінавачванні часам выклікае ігэхняя дзейнасць. "Мы хочам афіцыйнага прызнання англійскай мовы асноўнай. А гаварыць дома ці весці прыватны бізнес можна любой — у гэта мы не мяшаемся"— адказваюць яны.

Закон аб статусе англійскай мовы будзе разглядацца ў галоўным судзе штата Арызона. І вынік гэтага разгляду стане адлюстраваннем настрояў усяго амерыканскага грамадства.

**Падрыхтаваў У.П.**

*Замежжа*

# Кангрэс у Будапешце

Аддаленыя на сотні і тысячы кіламетраў адзін ад аднаго народы гавораць блізкімі мовамі. Іх тры дзесяткі, але толькі тры — венгры, фіны і эстонцы — маюць уласныя дзяржавы. Яшчэ шаснаццаць жывуць на тэрыторыі Расіі, пяць з іх маюць там аўтаноміі, але толькі ў адзінай — Мары Эл — карэннае насельніцтва складае большасць.

Дваццаць чатыры мільёны людзей, якіх яднае прыналежнасць да гэтай адзінай моўнай групы — фінаўгорскай,— паслалі сваіх прадстаўнікоў на з'езд угра-фінскіх народаў, які ў сярэдзіне жніўня адкрыўся ў Будапешце. Там на працягу некалькіх дзён дэлегаты абмяркоўвалі мінулае і сучасны стан сваіх народаў і іх культур.

Ці стварае праблемы для нацыі яе культурная адметнасць? У гэтыя дні, калі венгры святкуюць 1100-годдзе адшукання радзімы, гэтае пытанне зноў робіцца для іх актуальным. Адзінаццаць вякоў таму кароль Арпад, які прывёў свой народ з усходу туды, у цэнтр Еўропы, папрасіў мараўскага князя Сватаплука дазволіць венграм асесці ў Карпацкай нізіне. З гэтага і пачалася іх дзяржаўнасць. Але ў суседняй Славакіі на падзеі таго часу глядзяць інакш, папракаючы венграў, якія праз нядоўгі час гвалтоўна выцяснілі Сватаплука і яго народ з берагоў Балатона. З таго часу гісторыя венграў стала гісторыяй барацьбы за выжыванне гэтага народа ў славянскім моры, якое абступала іхні край і з поўначы, і з поўдня.

Што прынесла ім існаванне ў чужым этнічным асяроддзі? Удзельнікі з'езда спрабавалі даць адказ і на гэтае пытанне. На думку аднаго з арганізатараў форуму, вядомага ў краіне прафесара ўгра-фінолага, нацыянальны досвед венграў сведчыць аб тым, што прыналежнасць да іхняга ізаляванага моўнага асяроддзя нярэдка выклікае пачуццё самоты, безвыходнасці і дэпрэсіі. Магчыма, якраз гэтым тлумачыцца сумнае лідэрства ў адноснай колькасці самагубстваў, якое Венгрыя утрымлівае ў свеце ўжо 117 гадоў. Але разам з тым менавіта моўная адметнасць спрыяла выжыванню і захаванню венграў як народа.

Ці маюць фіна-ўгорскія народы ідэю этнічнага адзінства, падобную да прапагандаванай у постсавецкіх краінах ідэі славянскай еднасці? Не. Нягледзячы на тое, што менавіта мова захавала іх народ, тыя ж венгры не адчуваюць значнай культурнай блізасці з іншымі народамі сваёй моўнай групы. Магчыма, таму, што іхнія шляхі разышліся дастаткова даўно і сёння ў венгерскай, эстонскай ды іншых блізкіх мовах засталося не больш тысячы агульных словаў.

Змяншае пачуццё блізасці і адсутнасць у народаў, што карыстаюцца мовамі фіна-ўгорскай групы, агульнага этнічнага паходжання, адсутнасць прыналежнасці іх да адной расы. З пункту гледжання антрапалагаў, нагайцы і фіны не маюць нічога агульнага: проста ў выніку працяглага ўплыву чужой культуры мова нагайцаў змянілася да такой ступені, што яе носьбітаў цяпер адносяць да ўграфінаў...

Але гэта не перашкодзіла комі, удмуртам, карэлам, эстонцам, мардвінам, фінам і венграм сустрэцца ў Будапешце, каб шукаць хаця, магчыма, і не існуючага, але так жаданага агульнага мінулага.

**Падрыхтаваў У.П.**

# Кола сям'і

*Сённяшні госць рэдакцыі — Ірына Іванаўна Калачова, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі лабараторыі сямейнага выхавання, выкладчык этнапедагогікі ў Беларускім універсітэце культуры. Абараніла дысертацыю па тэме: "Этнапедагагічныя традыцыі беларусаў і іх уплыў на сучасную гарадскую сям'ю" (1995). У лабараторыі сямейнага выхавання ўдзельнічае ў распрацоўцы тэмы "Сацыяльна-педагагічныя аспекты выхавання дзяцей, пазбаўленых бацькоўскай апекі". Публікуецца ў перыёдыцы, падрыхтавала метадычны дапаможнік "Ад добрага кораня — добры пачатак" (Этнапедагагічная спадчына беларусаў у сямейным выхаванні)", які адрасуецца бацькам, выхавальнікам, сацыяльным педагогам, арганізатарам пазашкольных устаноў.*



## Каб не парушыўся разумны лад жыцця

**— Ірына Іванаўна, у якіх накірунках працуе Ваша лабараторыя сямейнага выхавання, якія пытанні яна зараз даследуе?**

— За лабараторыяй значыцца некалькі планавых тэм. Адна з іх ужо блізкая да завяршэння і фармулюецца так: "Праблема ўзаемаадносін бацькоў і прыёмных дзяцей. Правы дзіцяці. (Каментарыі да дзяржаўных дакументаў)". Тэму распрацоўвае вялікі калектыў, якім кіруе загадчыца лабараторыі кандыдат педагагічных навук, дацэнт Людміла Іванаўна Смагіна, у поўным сэнсе апантаны сваёй работай чалавек. У працэсе даследавання гэтай важнай і надзённай праблемы накоплены значны матэрыял, які, з аднаго боку, паслужыў для напісання метадычнага дапаможніка для ВНУ "Преподавание спецкурса "Права ребёнка в начальной и средней школе" (1996), а, з другога боку, па ініцыятыве Міністэрства адукацыі і лабараторыі служыць удасканаленню працы дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, якіх зараз на Беларусі налічваецца больш за 20 і якім мы пастаянна дапамагаем сваімі кансультацыямі і ўсяляк дапамагаем ім выжыць.

Наша праца ў гэтым накірунку не была б такой выніковай, каб не супрацоўніцтва з рознымі арганізацыямі — дзяржаўнымі і грамадскімі, якія таксама маюць дачыненне да гэтай праблемы. Так, мы супрацоўнічаем з Беларускім дзіцячым фондам, з Гарадскім саветам жанчын, з Нацыянальным цэнтрам творчасці дзяцей і моладзі Рэспублікі Беларусь, з Беларускім фондам падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям", з Беларускім фондам міру, з Беларускай асацыяцыяй клубаў ЮНЕСКА ды некаторымі іншымі.

**— У якім выглядзе існуюць згаданыя Вамі дзіцячыя дамы сямейнага тыпу? Я гэту справу ўяўляю сабе так: да груп сірот, скажам, з пяці-сямі асоб, падбіраюцца прыёмныя бацькі або нават адна маці-выхавальніца, якім гэты занятак аплачваецца дзяржавай, як, дарэчы, і ўтрыманне ўсіх дзяцей. Ці не так?**

— Не зусім так. Наша лабараторыя сумесна з Міністэрствам адукацыі распрацавала спецыяльныя дакументы — своеасаблівы статут, які рэгулюе і вызначае правы і абавязкі прыёмных бацькоў і дзяцей у гэткай незвычайнай сям'і, агаворвае ўмовы пражывання дзяцей. У такой сям'і дарослыя — бацькі і выхавальнікі адначасна. Дзяцей яны ўсынаўляюць і атрымліваюць юрыдычныя правы апякуноў. У нас ёсць такі добры, карысны прыклад — гэта сям'я Глухавых з Бабруйска, у якой выхоўваецца сямёра дзяцей. Яна і ўяўляе сабой дзіцячы дом сямейнага тыпу. Дарэчы, маці-выхавальніца піша ў нас дысертацыю на аснове сваёй практычнай выхаваўчай дзейнасці.

**— Дзяржава такім сем'ям дапамагае?**

— Дапамагае. Забяспечвае кватэрамі і выдзяляе сродкі на ўтрыманне, аднак не ў дастатковай колькасці. У гэтым сэнсе вялікая ноша кладзецца і на прыёмных бацькоў. Дарэчы, гэтай вясной прадстаўнікі нашай лабараторыі пабылі на сямейным свяце з нагоды юбілею ў дзвюх сем'ях — Глухавых і Сямцовых — першай споўнілася сем гадоў, другой — дзесяць гадоў. Такім чынам, адным з галоўных напрамкаў дзейнасці нашай лабараторыі з'яўляецца, як Вы бачыце, сацыяльнае выхаванне і праблемы, звязаныя з сацыяльным выхаваннем. Другая тэма, над якой працуе лабараторыя, фармулюецца як "Сацыяльна-педагагічныя аспекты выхавання дзяцей, пазбаўленых бацькоўскай апекі". І з гэтай тэмы вынікае праблема, вельмі распаўсюджаная ў грамадстве, якая мае тэндэнцыю да росту. Гэта дзеці, вымушаныя жыць у дзяржаўных установах — дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах, а таксама ў няпоўных сем'ях. Усе яны трапляюць менавіта ў групу рызыкі. У цэлым наша дзейнасць накіравана на сірот, на пакінутых дзяцей і на розныя тыпы сем'яў сацыяльнай рызыкі. Мы не вывучаем шчаслівую і поўную сям'ю, мы вывучаем сям'ю няпоўную, у якой ёсць праблемы.

**— Скажыце, а як Вы маглі б акрэсліць паняцце сённяшняй сям'і?**

— У святле тых праблем, якія зараз намі вывучаюцца і носяць яўна сацыяльную афарбоўку, зусім відавочна, што традыцыйнае азначэнне сям'і як групы людзей, якая складаецца з мужа, жонкі, дзяцей і блізкіх сваякоў, што жывуць разам, ужо нас не задавальняе, паколькі зараз распаўсюджаны няпоўныя сем'і і сем'і, у якія прадстаўнікі старэйшага пакалення не ўваходзяць, як было некалі. Сям'я ў старым значэнні слова з яе выхаваўчымі аспектамі і нацыянальнымі традыцыямі ўжо, на маю думку, адыходзіць у нябыт. Дарэчы, у сваёй дысертацыі я даследавала традыцыйную беларускую сям'ю.

**— У дапаўненне да апошняга пытання паясніце, калі ласка, ці маюць усё-такі нейкую нацыянальную афарбоўку Вашы даследаванні сучаснай сям'і, поўнай і няпоўнай, а таксама дзіцячыя дамы сямейнага тыпу, на манер згаданых вамі? І ці цікавіцеся Вы, скажам, роляй нацыянальнай культуры ў сямейным выхаванні дзяцей і, тым больш, ці стымулюеце справу нацыянальнага выхавання маладога пакалення ўвогуле?**

— Адкажу так. Праблема пакінутых дзяцей сама па сабе вельмі складаная, таму гаварыць сёння аб іх арыентацыі на нацыянальную культуру ў працэсе выхавання не даводзіцца. Гэтых дзяцей трэба вучыць элементарнаму ўяўленню аб элементарных чалавечых узаемаадносінах. Яны пазбаўлены паўнацэннага жыцця ў сям'і і бацькоўскай ласкі, таму ў іх парушана ўсё: пачуццёвыя адносіны, рацыянальныя адносіны, эмацыянальныя і г.д. Іх учынкі часам — на грані псіхічных зрываў і адхіленняў. Гэта не значыць, што мы не думаем падымаць пытанне нацыянальнага выхавання такіх дзяцей. Пачынаць можна з чырвоных дат календара, да якіх зараз адносяцца такія народныя святы, як Вялікдзень, Каляды, Дзяды, Купалле, і з імі можна знаёміць гэтых дзяцей, прывіваючы разуменне нацыянальных традыцый і звычаяў.

**— Ці арыентуецца Ваша лабараторыя на работу школы?**

— Да гэтага часу прамая арыентацыя амаль адсутнічала. Гэтым займаюцца іншыя лабараторыі, работа якіх непасрэдна тычыцца фарміравання нацыянальнай свядомасці дзяцей. Але вось зараз нашы даследаванні праходзяць у школах-інтэрнатах рэспублікі.

**— Зразумела. А на якую метадычную і навуковую літаратуру Ваша лабараторыя арыентуецца? Павінны ж брацца аднекуль ідэі?**

— Займаючыся праблемамі выхавання дзяцей, мы арыентуемся як на сусветную, перадавую літаратуру па педагогіцы і псіхалогіі, так і на беларускую педагагічную думку. Маецца і спецыфічная літаратура з вопыту работы. Я маю на ўвазе працу А.С.Брусковай, якая піша пра няпоўную сям'ю і вопыт выхавання дзяцей у яе спецыфічных умовах, кнігу маскоўскіх аўтараў "Дзіцячы дом сямейнага тыпу: праблемы і рашэнні", а таксама кнігу з вопыту работы дзіцячых дамоў сямейнага тыпу менавіта нашых, беларускіх, якую мы выдалі пад назвай "Такая незвычайная сям'я" (1995). Дадам, што ўсім, хто цікавіцца праблемамі сямейнага выхавання, лабараторыя аказвае кансультацыйныя паслугі. Я ўжо казала, што наша праца вымагае шырокага супрацоўніцтва з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі ўстановамі.

**— Са сказанага Вамі вынікае, што беларуская сям'я ў гістарычным разрэзе, скажам, сям'я гарадская, сялянская, чыноўніцкая, рамесніцкая і г.д., у яе пераемнасці з сям'ёй сучаснай лабараторыяй не даследуецца?**

— Я хацела б, каб такі накірунак у нас быў, але пакуль што праз канкрэтныя тэарэтычныя тэмы ён не заяўлены. Што да маіх навуковых зацікаўленняў, то яны ляжаць менавіта ў сферы этнапедагагічных сямейных традыцый беларусаў, паколькі я абараніла дысертацыю па гэтай тэме. Асабіста працую над тым, як вырашаць выхаваўчыя задачы ў сям'і, у дашкольных, школьных і пазашкольных установах, скарыстоўваючы лепшы вопыт, які назапашаны традыцыйнай сям'ёй і народнай педагогікай. Адзначу, што ў гэтым годзе ўпершыню ў Беларускім універсітэце культуры на кафедры сацыякультурнай дзейнасці чытаецца курс этнапедагогікі, які вымагае вывучэння беларускіх выхаваўчых традыцый, увогуле беларускай народнай педагогікі і ўнясенне яе элементаў як у выхаваўчы працэс моладзі, так і ў методыку працы сацыяльных педагогаў, якія з гэтага навучальнага года будуць працаваць у школах. Такія веды, безумоўна, патрэбны спецыялістам, якія працуюць на стыку станоўчага і адмоўнага ў чалавеку. Наша педагагічная спадчына багатая, шырокая і разнастайная, ахоплівае розныя бакі жыцця, у тым ліку і вопыт сямейнага выхавання. Я рада, што буду чытаць курс этнапедагогікі ў ВНУ.

**— Прыемна чуць, што Вы даследуеце беларускую традыцыйную сям'ю і хацелі б працаваць у гэтым напрамку і далей. Але мне незразумела, як абыходзіцца без вывучэння гісторыі нацыянальнай сям'і Ваша лабараторыя? Хіба ж сувязь ці пераемнасць паміж мінулым і сучасным, як і разрыў гэтай пераемнасці паміж пакаленнямі не ўплываюць на сучасныя сацыяльныя праблемы грамадства і ў нейкай меры іх не абумоўліваюць? Ну, а калі браць сучасную сям'ю, гарадскую, напрыклад, то што для яе зараз характэрна?**

— Я не адкрыю нічога новага, калі скажу, што гарадская сям'я — гэта міні-сям'я — мы яе называем нуклеарнай, бо складаецца яна толькі з бацькоў і дзяцей. Вельмі рэдка ў ёй пражываюць бабуля і дзядуля. А чаму? Як вядома, насельніцтва нашых гарадоў, і Менска ў прыватнасці, спрэс складаецца з мігрантаў, што пераехалі з вёсак, пакінуўшы там сваіх бацькоў. Адбыўся такім чынам разрыў устойлівых сямейных традыцый на побытавым узроўні, парушыўся спрадвечны ўклад жыцця, носьбітамі якога заўсёды былі старэйшыя. Пазбаўленыя народных каранёў, маладыя сем'і хутка асімілююцца гарадской культурай, якая вельмі ўплывовая, актыўная і адводзіць мігрантаў ад традыцыйнай культуры і іх роднай мовы,— гэта, з аднаго боку. Але ж, з другога боку, на пачатку дзевяностых гадоў мы назіралі ў горадзе выбух цікавасці да беларускай традыцыйнай культуры. Калі ў 1992 г. у час маіх этнасацыялагічных даследаванняў менскія сем'і бацькі яшчэ не мелі ўяўлення пра беларускую народную педагогіку і не ведалі, як да яе ставіцца, то ў 1994 г. пад уплывам грамадскіх ідэй і працэсаў у бацькоўскім асяроддзі адбыліся значныя змены. Бацькі пачалі цікавіцца і з прыхільнасцю ставіцца да народных святаў, з задавальненнем аддаваць сваіх дзяцей у фальклорныя і этнаграфічныя ансамблі, выкарыстоўваць нацыянальныя элементы ў адзенні, у жыллёвым інтэр'еры і г.д. Нагадаю таксама, як у мікраераёне Уручча жменька бацькоў, дзеці якіх вучацца ў 177-й сярэдняй школе, аб'ядналіся вакол нацыянальнай ідэі. Яны хочуць, каб іх дзеці вучыліся на роднай мове, ведалі свае песні і танцы. З гэтай мэтай яны ладзяць фальклорныя мерапрыемствы і літаратурныя вечарыны. Называе сябе гэта аб'яднанне Бацькоўскім клубам Цёткі.

Хачу сказаць, што парасткі цікаўнасці да традыцыйнага, народнага, нацыянальнага існуюць у нашых сем'ях, іх трэба толькі заўважаць і падтрымліваць. Увогуле ж сучасная сям'я, калі мець на ўвазе яе педагагічныя падыходы да выхавання дзяцей, карыстаецца тым, што даюць тэлебачанне і сродкі масавай інфармацыі, а з традыцыямі нацыянальнымі дзеці знаёмяцца хутчэй у дашкольных установах і школах, чым у сем'ях.

**— Ці азначае гэта, што сям'я не ўплывае на далучэнне дзяцей да традыцыйнай культуры?**

— Вельмі слаба ўплывае. Праз адно пакаленне вельмі мала што даходзіць да сучасных дзяцей. Добра яшчэ, што летам яны бываюць на вёсцы ў дзядуль і бабуль і штосьці ад іх пераймуць. А ў сям'і, інтымны свет якой зачынены для старонніх, лічыце, гэты працэс некіруемы.

**— А як уплываюць навукоўцы, распрацоўшчыкі народнай педагогікі на бацькоўскае асяроддзе?**

— Таксама слаба ўплываюць, паколькі спецыялістаў у гэтай галіне — лічаныя адзінкі. Як мне вядома, ёю займаюцца Галіна Арлова з Віцебска — выдала кніжачку па беларускай народнай педагогіцы, Любоў Ракава — апублікавала шэраг прац па выкарыстанні народнай педагогікі ў выхаванні вучняў, Таццяна Кухаронак і Ганна Курыловіч з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Галіна Баршчэўская з Інстытута ўдасканалення кіруючых кадраў, Святлана Снапкоўская з нашага Нацыянальнага інстытута адукацыі. Што да мяне, то мой падыход да народнай педагогікі больш вузкі: сямейная народная педагогіка. Адзінае суцяшае, што прадмет этнапедагогікі, як я казала, ужо чытаецца ў Беларускім інстытуце культуры, а таксама слухачам Рэспубліканскага і гарадскога інстытутаў удасканалення настаўнікаў, дзе таксама займаюцца работнікі дашкольных дзіцячых устаноў і прафтэхвучылішчаў.

**— У выхаванні школьнікаў веды па этнапедагогіцы ўжо скарыстоўваюцца?**

— Скарыстоўваюцца выхавацелямі ў групах падоўжанага дня і ў малодшых класах праз канкрэтныя формы работы.

**— Якая розніца, на Вашу думку, паміж тыпамі сем'яў у іх адносінах да традыцыйнай культуры?**

— Сялянскую сям'ю спецыяльна не вывучала, але магу сказаць, што яна больш за гарадскую арыентавана на традыцыйную культуру, а чаму — думаю, не трэба і тлумачыць. Сялянскія сем'і жывуць у хатах, а хаты сімвалізуюць устойлівасць жыцця, чалавечага побыту, часта са старымі бацькамі і дзядамі. Такім чынам ніць пераемнасці пакаленняў там захоўваецца. Гарадская ж сям'я праз цывілізацыю вельмі многае траціць, бо адрываецца ад сваіх каранёў. Сем'і інтэлігенцыі, паколькі яны звязаны з духоўнай культурай, маюць больш шансаў далучыцца, скажам так, да беларушчыны, чым сем'і рабочых. Пра духоўную скіраванасць сям'і можна меркаваць і па тым, як яна адпачывае: адна на ўлонні прыроды ў прысутнасці дзяцей распівае моцныя напоі, другая займаецца аздараўленчым турызмам і спортам, а трэцяя — на іх прыпадае 1,1 працэнта — шукае асалоду ў розных нацыянальных імпрэзах і святах, вечарынах, захапляецца рамёствамі, вырабам з саломкі і г.д. Так што зрухі, хоць і невялікія, у грамадстве ўсё ж ёсць. Вось ужо і Беларускі універсітэт культуры пачаў рыхтаваць спецыялістаў па народных рамёствах. Калі асталюецца нацыянальная дзяржава, то і сучасная сям'я з часам вернецца да сваіх спрадвечных асноў.

**Пакуль інтэрв'ю рыхтавалася да друку, лабараторыя сямейнага выхавання абмеркавала перспектыўныя тэмы даследавання на 1997-98 гг., якія ўжо поўным чынам акрэсліваюць пытанні нацыянальнага выхавання дзяцей у сучаснай сям'і. Гэта "Трансфармацыя сацыяльна-педагагічных функцый сучаснай сям'і" і "Псіхолага-педагагічныя асновы выхавання дзяцей у духу цярпімасці, павагі правоў і годнасці чалавека".**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

